*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**


**№ 238 (1302)**
Чацвер, 20 снежня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля

**Надвор’е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор’е, часам снег, мокры снег, мяцеліца, месцамі моцны снег, галалёд, на дарогах галалёдзіца. Вецер заходні, 7—12 м/с, 20-га і ўдзень 21-га — парывы да 17—22 м/с. Тэмпература паветра 20-га на працягу сутак — 0...-5; 21-га ўначы — -9...-14, месцамі да -19, удзень — -5...-10, па захадзе — 0...-5.



**ПУЛЬС**

## За першы тыдзень снежня цэны выраслі на 1,7 працэнта

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, за першы тыдзень снежня рост спажывецкіх цэн у краіне склаў 1,7 працэнта.

Для параўнання: за першы тыдзень лістапада цэны павялічыліся на 0,7 працэнта, кастрычніка — на 1, верасня — на 0,4 працэнта.

З пачатку года спажывецкія цэны ў Беларусі выраслі на 40,9 працэнта (за гэты ж перыяд 2000 года — у 2,02 раза, у тым ліку за першы тыдзень снежня — на 2,2 працэнта).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Навагодні феерверк... за 60 мільёнаў рублёў

Кошт навагодняга феерверка, які распачнецца ў 1.30 1 студзеня каля абеліска “Мінск — горад-герой” на праспекце Машэрава, складзе 60 мільёнаў рублёў.

Пра гэта паведаміў, адказваючы на пытанне карэспандэнта БелаПАН, начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкама Віктар Кураш на сустрэчы з журналістамі.

Працягнецца феерверк каля 40 хвілін і, паводле слоў Кураша, будзе больш відовішчным, чым летась. “Будуць новыя вадаспады, шары, фігуры, а таксама музычнае суправаджэнне”, — адзначыў Кураш. Піратэхнічнымі сродкамі і ўстаноўкамі (яны закупаюцца ў асноўным у Кітаі, Карэі і Польшчы) забяспечыць феерверк таварыства з абмежаванай адказнасцю “Кальвін”.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Польшча адмяніла абмежаванні на мяжы з Беларуссю

Рэспубліка Польшча адмяніла абмежаванні пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы з Беларуссю, існаваўшыя для грузавых і грузапасажырскіх мікрааўтобусаў.

Нагадаем, што 3 верасня бягучага года польская пагранічная варта ў аднабаковым парадку спыніла пропуск цераз дзяржаўную мяжу грузавых і грузапасажырскіх мікрааўтобусаў у асобных пагранічных пунктах пропуску, у тым ліку ў пункце пропуску “Варшаўскі мост”.

На просьбу беларускіх памежнікаў растлумачыць, што стала прычынай падобнага рашэння, быў атрыманы адказ, з якога вынікала, што грузавыя і грузапасажырскія мікрааўтобусы павінны перасякаць мяжу толькі ў тых пунктах пропуску, якія абуладкаваны для праверкі грузавога транспарту, — гэта значыць, толькі ў пунктах “Казловічы” і “Брузгі” (Гродзенская вобласць).

Тым, хто не пажадае стаяць у кіламетровых чэргах на грузавыя аўтапераходы, палякі прапаноўвалі звяртацца па спецыяльны дазвол у Галоўную камендатуру Пагранічнай варты. Прычым заяву з указаннем мэты паездкі з падрабязным тлумачэннем эканамічных і фінансавых інтарэсаў трэба было падаваць за 30 дзён да плануемага перасячэння мяжы; дазвол жа выдаваўся разавы.

Як лічаць беларускія памежнікі, рашэнне аб адмене абмежаванняў для грузавых і грузапасажырскіх мікрааўтобусаў “не проста правільнае, але і неабходнае”. Улічваючы, што пункт пропуску “Брузгі” часова закрыты, на грузавым пераходзе “Казловічы” ўтвараюцца шматкіламетровыя чэргі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Консульства Беларусі ў Беластоку займела будынак

Асобна стаячы двухпавярховы будынак агульнай плошчай 684 квадратныя метры набыло ва ўласнасць у Рымска-каталіцкай парафіі святога Войцэха ў Беластоку генеральнае консульства Беларусі ў Беластоку.

Будынак пабудаваны ў першай палове 90-х гадоў і перададзены ў эксплуатацыю ў 1995 годзе. Будынак размешчаны ў Беластоку па адрасе: вуліца Электрычна, 9, у цэнтры зямельнага ўчастка плошчай 0,1427 га, які таксама набыты ва ўласнасць. У ім ёсць магчымасць для абуладкавання жылых памяшканняў, рабочых кабінетаў, залы для афіцыйных прыёмаў умяшчальнасцю каля 50 месцаў. Цокальны паверх можна выкарыстаць пад бібліятэку і архіў, а таксама для прыёму наведвальнікаў.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ.**

## Абмежавалі гандаль за валюту

У Беларусі скарочаны пералік ліцэнзій на рознічны гандаль і аказанне паслуг грамадзянам за замежную валюту на тэрыторыі краіны.

Цяпер такія ліцэнзіі будуць выдавацца толькі на рэалізацыю паліва (бензін, дызельнае паліва і звадкаваны газ) на аўтазаправачных станцыях, рознічны гандаль і аказанне паслуг на аўтамагістралях (аўтадарогах з нумерацыяй М), страхавую дзейнасць, рознічны продаж тавараў у магазінах бяспошліннага гандлю.

У Нацбанку адзначаюць, што практыка прадастаўлення ліцэнзій абумоўлена цяжкасцямі, звязанымі з канвертацыяй сродкаў у беларускіх рублях. Праводзімая Нацбанкам палітыка ў галіне валютнага рэгулявання забяспечыла канверсоўнасць нацыянальнай валюты па бягучых аперацыях. Сёння ўсе суб’екты гаспадарання маюць роўныя магчымасці па набыцці замежнай валюты на розных сектарах фінансавага рынку.

Як падкрэсліваюць у Нацбанку, парадак прадастаўлення ліцэнзій, які існаваў раней, ствараў перадумовы для ўстанаўлення няроўных эканамічных умоў. Акрамя таго, нязначная (каля 2 працэнтаў) сярэднямесячная выручка суб’ектаў гаспадарання, маючых ліцэнзіі на рэалізацыю тавараў і паслуг грамадзянам за СКВ, сведчыць аб малых аб’ёмах здзелак. Усё гэта і дало падставы для рашэння аб скарачэнні пераліку ліцэнзій.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Журналисты, пишите рефераты

В рамках программы ТАСИС Европейского Союза Дортмундский международный образовательный центр реализует проект для белорусских журналистов “СМИ в Европейском Союзе”, включающий написание и защиту реферата на иностранном языке по европейской проблематике и практику в СМИ ЕС.

Условием участия в проекте является хорошее знание одного из западноевропейских языков. Для участия в конкурсе необходимо до 12.00 8 января 2002 г. представить автобиографию на иностранном языке и пресс-папку публикаций в Минский МОЦ по адресу: **пр-т “Газеты ”Правда", 11, ком.А5.**

**Виктор БАЛАКИРЕВ,**
**белорусский директор Минского международного образовательного центра.**

**ВАЙНА**

# Пентагон шукае блох

**“Калі асядзе пыл, мы абавязкова выявім, дзе хаваецца бен Ладэн, і ён паўстане нарэшце перад судом”, — заявіў прэзідэнт ЗША Джордж Буш.**

Прадстаўнік Пентагона, як перадае “Сі-Эн-Эн”, контр-адмірал Джон Стафлбім на прэс-канферэнцыі ў Вашынгтоне апісаў пошукі тэрарыста яшчэ больш вобразна. “Мне ўсё гэта нагадвае лоўлю блох на скуры сабакі”, — заявіў Стафлбім. — Можа, гэта няўдалае параўнанне, але я маю на ўвазе, што пакуль мы ганяемся за адной блыхой, астатнія пускаюцца ад нас на ўцёкі".

Дзіўна, але адмірал, на мой погляд, вельмі дакладна ацаніў намаганні ЗША малой крывёй знішчыць абсалютнае зло, якое для амерыканскіх вайскоўцаў сканцэнтравалася ў асобе бен Ладэна. Згодна са словамі Стафлбіма, “наладзіць поўны амерыканскі кантроль над Афганістанам будзе вельмі і вельмі цяжка”. “Ёсць усе падставы сцвярджаць, што прадстаўнікі антыталібскай кааліцыі заключылі здзелку з Талібанам, згодна з якой талібы здалі афганскія тэрыторыі ўзамен на магчымасць сысці. Гісторыя гэтай краіны грунтуецца на здзелках, і мы падазраем, што так адбылося і зараз”, — лічаць у Міністэрстве абароны ЗША. — Калі, напрыклад, Кандагар перайшоў у рукі Паўночнага альянсу, там было знойдзена няшмат талібаў. Гэта наводзіць на думку, што астатнія купілі для сябе магчымасць пакінуць горад жывымі".

Верагодней за ўсё такім жа чынам антыталібы далі магчымасць схавацца і талібу №1 муле Амару. Іншая справа — бен Ладэн. За яго галаву, як вядома, амерыканцы паабяцалі кругленькую суму ў доларах. У адказ некаторыя пуштунскія баявыя атрады ўжо не раз актыўна білі сябе ў грудзі, што дакладна ведаюць месцазнаходжанне арганізатара тэрактаў 11 верасня...

Што датычыцца знакамітага спецназу ЗША, то, як перадае тэлеканал “Эй-Бі-Сі Ньюс”, ён ужо дзейнічае ў Пакістане. Амерыканскім рэмба актыўна дапамагаюць каля 4000 пакістанскіх вайскоўцаў, разам яны патрулююць пагранічныя тэрыторыі. У Пакістане працуюць і супрацоўнікі ЦРУ, якія дапытваюць тэрарыстаў у мясцовых турмах і лагерах “Аль-Каеды”. Згодна з данымі канала, у мінулую суботу чалавек-невідзімка бен Ладэн дакладна быў у гэтым раёне.

Цікавую інфармацыю, якая датычыцца сусветнай гульні ў хованкі з бен Ладэнам, перадае выданне “Дэйлі Рэкорд”. Зорка Галівуда Алісія Сільверстоун вырашыла таксама зрабіць свой уласны ўклад у барацьбу з міжнародным тэрарызмам. Яна апранулася ў адзенне са штучнай скуры і прыняла ўдзел у кампаніі “Людзі за этычнае абыходжанне з жывёламі”, накіраванай супраць гандлёвых прадпрыемстваў бен Ладэна ў Судане, якія занятыя продажам натуральнай скуры. Гэтыя прадпрыемствы, як лічыцца, фінансуюць дзейнасць тэрарыстычнай сеткі “Аль-Каеда”.

Кожны змагаецца за мір на свой капыл...

**Алесь СІЛІЧ.**




# КХП БНФ — за правядзенне датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў

Рашэнне дамагацца нечарговых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі было прынята 5-м з’ездам КХП БНФ па прапанове старшыні Зянона Пазьняка. Гаворыць першы намеснік КХП БНФ **Юрась Беленькі**:

— Мы павінны дамагацца правядзення сапраўды свабодных, дэмакратычных выбараў прэзідэнта Беларусі пад міжнародным пратэктаратам. Гэта значыць, мы выступілі з ініцыятывай гуртавання ўсіх тых людзей, грамадскіх арганізацый, палітычных партый на грунце адстойвання асноўных беларускіх каштоўнасцяў. І наша задача ў міжнародным плане даказаць міжнароднай супольнасці, што беларусы ніколі не пагадзяцца з акупацыяй, інкарпарацыяй Беларусі ў склад Расійскай імперыі.

Кіраўнікі КХП БНФ лічаць, што найбольш складана будзе давесці ідэю датэрміновых выбараў прэзідэнта пад міжнародным пратэктаратам да палітыкаў еўрапейскіх краін, і найперш Нямеччыны. Лягчэй за ўсё, на думку актывістаў КХП БНФ, да палітычных колаў Злучаных Штатаў Амерыкі, прадстаўнікі якіх заўсёды паслядоўна выступалі ў абарону незалежнасці Беларусі.

Унутры Беларусі партыя збіраецца арганізаваць шырокую агітацыйную кампанію ў справе правядзення датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў. Паводле слоў намесніка старшыні КХП БНФ Сяргея Папкова, партыя не будзе ствараць штучных кааліцый з тымі палітычнымі сіламі, якія супрацоўнічалі з кіраўніком мінскай групы АБСЕ Хансам-Георгам Вікам. Гэты палітык, на думку паплечнікаў Зянона Пазьняка, праводзіў антыбеларускую палітыку.

Сябры КХП БНФ будуць супрацьстаяць любым спробам улад правесці выбары ў гэтак званы саюзны парламент. А вось адносна свайго ўдзелу ці няўдзелу ў мясцовых выбарах партыя вызначыцца пазней, калі гэтыя выбары будуць абвешчаны.

Адным з галоўных прыярытэтаў дзейнасці КХП БНФ ёсць абарона і мемарыялізацыя Курапатаў. З’езд нават стварыў у гэтай справе адмысловую соймавую камісію. Гаворыць намеснік старшыні партыі **Сяргей Папкоў**:

— Мы будзем ставіць крыжы і абараняць гэтае месца. І як толькі зменіцца ўлада, дарога будзе пракладзена па-за Курапатамі. Не можа па святым месцы ездзіць аўтатранспарт, а гэта для Беларусі святое месца.

У справе стварэння ў Курапатах народнага мемарыялу КХП БНФ будзе супрацоўнічаць з маладымі валанцёрамі, і людзьмі, якія рэальна бароняць урочышча.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**
*Радыё “Свабода”.*

**ЗАКУЛИСЬЕ**

# Кисель возвращается на телевидение?

***Из кулуаров Министерства информации дошли слухи о том, что бывший председатель Национальной телерадиокомпании Григорий Кисель возвращается в родные пенаты.***

Примечательно, что эти слухи появились сразу же после расширенного заседания у Лукашенко, в котором принимали участие и министр информации Михаил Подгайный, и другие сотрудники этого ведомства. Именно на этой встрече Лукашенко заявил, что белорусская государственная пресса должна стать прессой европейского уровня, и потребовал вернуться к проекту создания БТ-2. Как сказал Лукашенко, уже 1 мая будущего года это телевидение должно начать вещание.

В тот день в коридорах президентской администрации был замечен и бывший главный телевизионщик страны Григорий Кисель. Он активно общался с главой Нацбанка Петром Прокоповичем, председателем Беларусбанка Надеждой Ермаковой и председателем Госкомконтроля Анатолием Тозиком.

В настоящее время Григорий Кисель возглавляет белорусское посольство в Румынии. Туда он был назначен сразу после своей отставки. В Минск приехал на прошлой неделе. Согласно официальной версии, по служебным и личным делам. По некоторым данным, именно обсуждением планов на будущее занимается в эти дни Григорий Леонидович, и якобы от руководства страны ему поступило предложение вернуться на телевидение и заняться проектом создания БТ-2, которое в будущем он сам и возглавит.

Григорий Кисель, с которым нам удалось связаться по телефону, от подобных прогнозов открещивается.

— Об этом разговор ни с кем не шел, — заявил Григорий Леонидович. — Я не мог принимать того, что мне не предлагали. Я работаю послом в Румынии.

— И по-прежнему остаетесь в этой должности?

— На сегодняшний день да, и вы разговариваете с послом Беларуси в Румынии. На Белорусское телевидение я не возвращаюсь.

— Когда закончите дела в Минске, опять вернетесь в Бухарест?

— Да. Конечно.

Правда, близкие Киселя говорят, что вопрос с отъездом в Румынию еще окончательно не



решен и перемены в служебной жизни Григория Леонидовича вполне возможны.

А вот что думают о вероятном возвращении Киселя на телевидение те, кто имеет самое непосредственное отношение к БТ.

**Лилия АНАНИЧ, заместитель министра информации:**

— Я считаю, что Беларусь достойна того, чтобы иметь два телевизионных канала. Кто возглавит БТ-2? Эти вопросы в нашем министерстве не обсуждаются.

**Генадзь БУРАЎКІН, народны паэт Беларусі, старшыня Дзяржтэлерадыё БССР з 1978 па 1990 год:**

— У нашай краіне ўсё магчыма. Хаця я думаю, што для людзей дасведчаных і сур’ёзных наўрад ці гэта будзе выглядаць разумным і своечасовым. Усе прызначэнні на тэлебачанні пасля Кісяля былі не лепшымі, але вярнуць яго — гэта не значыць, што гэта своечасовае рашэнне.

**Владимир ДОВЖЕНКО, в бытность Киселя председателем Белтелерадиокомпании — автор и ведущий спортивной программы “Силач”:**

— Ничего удивительного в этом нет. Лукашенко может вернуть Киселя на телевидение. Александр Григорьевич окружает себя теми, кто ему предан, профессионализм и личные качества человека не учитываются. Кисель всегда был ему предан и его устраивал. Для телевидения это два шага назад.

**Владимир ДОМОРАЦКИЙ, директор Дирекции программ БТ:**

— Впервые слышу. Ничего не знаю, извините... — и короткие гудки в телефонной трубке.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**ОВАЛЬНЫЙ ЗАЛ**

## Бюджет на 2002 год принят

Палата Представителей вернулась к вопросу о бюджете, принятие которого на прошлой неделе было отложено в связи с несанкционированным увеличением с 2 до 2,5 процентов объема отчислений в фонд поддержки сельского хозяйства (статья 24). Пятничные страсти в Палате были столь жаркими, что председатель комиссии по аграрным вопросам А.Азарченков заявил об уходе в отставку в случае непринятия этой полпроцентной поправки.

Увы, непостоянство аграрников сродни женскому. Как метко подчеркнул Иван Пашкевич, “аграрники напугались собственной смелости, еще не выйдя из Овального зала, и, по всей видимости, не спали все эти четыре дня”. Александр Азарченков свою поправку снял: кресло председателя парламентской комиссии оказалось все-таки ближе страданий сельчан.

А ведь из выступлений “народных избранников” видно, что истинной ситуацией на селе они владеют. Например:

**Мария ХУДАЯ**: Заканчивается декабрь, а работники сельского хозяйства не получили заработную плату еще за октябрь. И это при том, что заработок у большинства из них от 30 до 50 тысяч.

**Анна БУРОВА**: В России дотации в сельское хозяйство составляют 7 долларов на один гектар, в Беларуси — 70 долларов. Тем не менее белорусские магазины завалены российскими продуктами, что свидетельствует об их конкурентоспособности. Так что проблема сельского хозяйства не в объеме дотаций, а в методах руководства отраслью.

**Петр РОЗЫНКО**: Это уже пятый бюджет, который мы принимаем с 1997 года (после разгона Верховного Совета 13-го созыва. — **Авт.**). И каждый раз говорим об одном и том же. Причина в том, что сельскохозяйственным производителям не дают заработать самим, а лишь заставляют ждать, что распределят власти.

**Николай КУЦКО**: Все программы реформирования сельского хозяйства не выполняются. Так было с программой 1996 года, такая же картина и с программой 2001 года.

Бюджет принят 82 голосами. Против проголосовали лишь шесть парламентариев.

Полагаю, избиратели должны знать, что их представители проголосовали:

— за отмену льгот и пособий лицам, проживающим на чернобыльских территориях;

— за увеличение более чем в два раза квартплаты;

— за бесконтрольное расходование главой государства валютных средств от продажи оружия...

Ну, а проблемы сельского хозяйства, как обычно, будут решаться на селекторных и прочих телесовещаниях, ближайшее из которых президент намерен провести в январе 2002 года.

**Валерий ЩУКИН.**

**АНОНС**

## Письма из Америки



Как только какой-нибудь белорус обзаводится зубом мудрости, его тут же вырывают. Как правило, вместе с хозяином. При этом последний даже не сопротивляется, а только просит ускорить операцию по удалению. Уточняет: нельзя ли в Америку или Германию? На худой конец, если уж совсем выбора нет, то в Израиль.

Родное государство в проводах не участвует, все больше плечами безразлично пожимает. Мол, хочешь — езжай, хочешь — оставайся. Оно иным сейчас озабочено — нехваткой энергоносителей. Между прочим в крошечном Израиле с его многомиллионным населением и в помине нет нефти, газовых месторождений, угля, золота. Но государство не в панике. Своим богатством оно считает высокие технологии и неустанно работающие мозги 36 тысяч ученых. На мировом рынке это ценится сегодня выше золота и нефти.

Мозги белорусских инженеров и ученых тоже в полном порядке и дорого стоят. Но они потекли, в том числе и в Израиль. Не говоря об Америке, которая всегда умело пользовалась европейскими умами, идеями, капиталами, достижениями и открытиями. Вспомните, радио изобрел русский ученый Попов, кинематограф — братья-французы Люмьеры, автомобиль — немцы Даймклер и Бенц.

Но при этом именно Америка стала самой мощной радио-, кино- и автодержавой. Никому не уступила она и честно завоеванного права считаться самым большим в мире “накопителем” граждан практически всех государств планеты.

Наша тропинка в Соединенные Штаты Америки, Германию, Италию, на Кипр (молчу уж об Израиле) тоже протоптана. По моим подсчетам, там проживает не менее сорока тысяч белорусов. И, как говорят социологи, наблюдается тенденция роста.

Вот уж воистину — разбегаются не только Галактики, но и люди. Одно вынуждает задуматься: если первые подчиняются могучим законам Вселенной, то какая же сила гонит в дорогу ее песчинку — Человека?..

**Леонид АНОП,**
**собственный корреспондент газеты “Народная воля” в Соединенных Штатах Америки.**

*(“Народная воля” публикует сегодня очередной очерк нашего корреспондента в США. Читайте 3-ю страницу газеты.)*

**КРЫЎДНА!**

## А “Краски” выходзяць на адзін колер...

Канцэртная маладзёжная група “Краски”, якая раней мела назву “Опасный возраст”, праводзіць зараз тур па Беларусі. Нядаўна яна завітала і ў Слуцк, дзе дала канцэрты ў гарадскім Палацы культуры. Кошт білетаў — ад 3 тысяч рублёў і вышэй — прыхільнікаў шоу-хітоў не спыніў, зала кожны раз была перапоўнена.

Выступленне салісткі групы Аксаны Кавалеўскай выклікала задавальненне ў моладзі, знаёмай з яе песнямі па гарадской дыскатэцы. Ды і вакальныя здольнасці спявачкі былі, як кажуць, на вышыні. Але дзіўным у праграме вечара было тое, што ўсе песні гучалі на адной мове — рускай. І так — на працягу аж трох гадзін. І хоць бы адзін чалавек у зале ўстаў і сказаў: “Праспявайце, калі ласка, што-небудзь і па-беларуску”. Ніхто і голасу не падаў! А вось дзве песні на англійскай мове выклікалі ў залы бурныя эмоцыі, з ускокваннем і плясканнем у ладкі.

Няўжо і ў іншых гарадах і мястэчках, дзе будуць выступаць “Краски”, у іх рэпертуары не знойдзецца месца для роднай песні і ўсё будзе аднаго колеру — расійскага?

**Мікола КУТНЯВЕЦКІ.**

ПУЛЬС

## Наш планетаход



Гэты планетаход стварылі дзеці, удзельнікі кружка тэхнічнай творчасці, якім кіруе Уладзімір Міхайлавіч Нябожак. Кружок "Эўрыка" працуе пры ЖЭУ-21 Віцебска.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## У Магілёве адзначылі 77-годдзе беларускага кіно

У магілёўскім кінатэатры "Чырвоная зорка" адбылося ўрачыстае мерапрыемства, прысвечанае 77-годдзю беларускага кіно.

У Магілёве першы кінасеанс адбыўся ў 1903 годзе. Праз шэсць гадоў, у 1909 годзе, з'явіўся першы кінатэатр "Чары", пазней перайменаваны ў "Чырвоную зорку".

Паводле слоў генеральнага дырэктара кінавідэапрадпрыемства Андрэя Бычкова, зараз перад кінатэатрамі вобласці стаіць задача пераходу на самафінансаванне. Толькі пры яе выкананні айчынны кінапракат зможа выжыць.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## П'ер Кардэн падтрымае культуру Беларусі ў Парыжы

Выдатны французскі куцюр'е і мецэнат, пасол добрай волі ЮНЕСКА П'ер Кардэн згадзіўся падтрымаць правядзенне Тыдня беларускай культуры ў Парыжы, які запланаваны на перыяд з 15 па 21 красавіка 2002 года.

На мінулым тыдні міністр культуры Леанід Гуляка правёў у Парыжы перамовы са сп. Кардэнам па пытаннях матэрыяльна-фінансавага забеспячэння творчай акцыі. З французскім бокам узгоднены пытанні знаходжання каля 50 беларускіх артыстаў у Францыі, іх фінансавага забеспячэння, умовы прадастаўлення канцэртных пляцовак і выставачнай залы з неабходным тэхнічным абсталяваннем і абслугоўваннем.

У адпаведнасці з папярэдняй дамоўленасцю, у тыдні могуць узяць удзел Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа (Віцебск), салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы Беларусі, вядомыя музыканты-інструменталісты і мастакі. Падчас правядзення акцыі адбудуцца канцэрты беларускіх артыстаў і адкрыццё выставы айчынных мастакоў пад умоўнай назвай "Нашчадкі Шагала". Гэты вернісаж будзе разгорнуты ў адной з залаў Цэнтра П'ера Кардэна.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Крадуць электрычныя правады

У Крычаве прадухілена спроба вывазу за межы краіны 500 кілаграмаў алюмініевых правадоў.

Правады былі знойдзены ў маршрутным рэйсавым аўтобусе "Бабруйск—Масква". Метал канфіскаваны, вядзецца расследаванне.

Як стала вядома, у Горацкае РАУС паступіла паведамленне аб знікненні 270 метраў электраправадоў з дзеючай лініі электраперадач каля вёскі Чаплееўка. Ва ўчыненні злачынства падазраецца 20-гадовы непрацуючы жыхар Мсціслаўя.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

ПАГОНЯ

# Последняя надежда

## Газета "Пагоня" закрыта, но остались ее сотрудники и дело, которому она служила



Прошло уже больше месяца со дня закрытия гродненской газеты "Пагоня". С решением Высшего Хозяйственного суда (ВХС) не может согласиться коллектив редакции, который использует все доступные способы для выражения своего протеста. Три сотрудника газеты (Н.Маркевич, А.Писальник, П.Можейко) привлечены к административной ответственности за участие в несанкционированном пикете, организованном в связи с закрытием газеты.

Главные редакторы республиканских независимых газет выступили с публичным обращением к председателю ВХС и руководству Прокуратуры с требованием восстановить законность в этом нашумевшем деле.

Серьезную обеспокоенность по поводу очередного наступления на свободу слова в Беларуси высказал ряд международных организаций (Всемирная организация за свободу слова "Article XIX", Федерация журналистов Литвы, Международная лига по правам человека, Комитет в защиту журналистов). С письмом к министру иностранных дел Республики Беларусь обратился представитель по свободе средств массовой информации ОБСЕ Фраймут Дувэ, который расценил закрытие "Пагоні" как попытку белорусских властей ограничить свободу независимой прессы.

Диссонансом возмущенной реакции общественности на факт закрытия газеты служат публикации в так называемых государственных СМИ. Пример тому — статья Валентина Борисевича, пресс-секретаря ВХС "В черном омуте крамолы, или Почему разгорелся сыр-бор вокруг "Пагоні"?" ("Народная газета", 13 декабря 2001 г.). Закрытую газету он называет "котлом" в среде оппозиционной прессы, в которой стряпались пасквили, очерняющие белорусскую действительность, органы власти. И поэтому правильно, с его слов, поступила прокуратура Гродненской области, когда поставила вопрос о "ликвидации" этой оппозиционной газеты. Судье же В.Жандарову, вынесшему "смертный приговор" газете, каяться, по мнению автора статьи, не в чем.

Хочу ознакомить читателей с основными положениями надзорной жалобы, которая подана от имени главного редактора газеты Н.Маркевича, и объяснить, почему мы, представители редакции газеты, не согласны с решением суда.

**Суд неправильно истолковал закон, подлежащий применению**

В своем решении ВХС сделал вывод, что распространение материалов 36-го номера газеты в Интернете является основанием для применения к редакции мер ответственности в соответствии с Законом о печати. При этом судья В.Жандаров сослался на статью 1 вышеуказанного закона, в которой дается разъяснение термина "средство массовой информации". Акцент он сделал не на обычном печатном издании, каковым являлась газета "Пагоня", а почему-то на "других формах (способах) периодического распространения массовой информации".

Однако с таким выводом нельзя согласиться по следующим причинам.

Во-первых, до дела с "Пагоняй" считалось, что Закон о печати не действует в отношении распространения информации через Интернет. Более того, готовясь к судебному процессу, адвокат сделал запрос в Министерство информации и оттуда получил ответ, что действующий Закон не регулирует правоотношения, вытекающие из факта распространения информации посредством Интернета (для сведения: в новой редакции Закона о СМИ предполагается данный "пробел" устранить. — **Авт.**).

Во-вторых, нормы Закона о печати применяются лишь к формам (способам) *периодического* распространения массовой информации. А информация, размещенная в Интернете, такой периодичностью, как правило, не обладает.

Весьма примечательно, что документальное подтверждение факта размещения газеты "Пагоня" на сайте Интернета было предоставлено Управлением КГБ по Гродненской области (чем только не приходится заниматься КГБ! — **Авт.**).

В-третьих, в соответствии с Законом о печати редакция газеты несет ответственность только за распространение своей печатной продукции. Если кто-то будет распространять информацию, содержащуюся в газете, иным образом, например, на бумажных носителях, через сеть Интернет, то в таком случае на него возлагается ответственность за соответствующий вид распространения.

На наш взгляд, именно в этом контексте следует трактовать постановление Пленума Верховного суда от 23 декабря 1999 г. "О практике рассмотрения судами гражданских дел о защите чести, достоинства и деловой репутации", где дается разъяснение термина "распространение сведений, порочащих честь, достоинство и деловую репутацию гражданина либо деловую репутацию юридического лица". В нем среди технических средств распространения информации действительно упоминается система "Интернет". Но это вовсе не означает, что Интернет отнесен или приравнен к СМИ.

Следует также отметить, что в ходе судебного разбирательства обстоятельства, относящиеся к появлению на сайте Интернета материалов 36-го номера газеты вообще не исследовались. Суд не стал выяснять, кто конкретно разместил материалы в системе "Интернет", как они туда попали, имела ли к этому отношение редакция газеты "Пагоня" и т.д.

Таким образом, очевидно, что суд неправильно истолковал абзац 2 статьи 1 Закона о печати. Как бы того ни хотелось, эта норма не может быть применена к распространению массовой информации через систему "Интернет". А это означает, что факт размещения номера газеты в Интернете не влечет за собой ответственности по ст.5 Закона о печати, что делает незаконным предупреждение, вынесенное газете прокуратурой Гродненской области от 21 сентября 2001 г.

**Суд не применил норму материального права, подлежащую применению**

Конкретно речь идет об абзацах 7 и 11 статьи 1 Закона о печати. Согласно первой норме, "правила, установленные настоящим Законом для периодических печатных изданий, применяются в отношении периодического распространения тиражом 300 и более экземпляров текстов". В соответствии со второй нормой под распространением печатной продукции имеется в виду "продажа, подписка, доставка, раздача периодических печатных изданий".

Из вышеприведенных норм следует, что ответственность редакции за нарушение ст.5 Закона о печати за "злоупотребление свободой" может наступать только за *распространение* выпускаемого ею периодического печатного издания способами, указанными в Законе.

Однако в судебном заседании доподлинно было установлено, что ни один экземпляр 36-го номера газеты от 4 сентября 2001 г. не распространялся указанными способами, так как весь тираж работники прокуратуры изъяли прямо в типографии в качестве вещественных доказательств по уголовному делу "Клевета в отношении Президента Республики Беларусь".

Как отмечалось выше, Интернет не относится к способам распространения периодических печатных изданий, названным в абзаце 11 статьи 1 Закона о печати. И следовательно, крамольная, с точки зрения прокуратуры, печатная информация на самом деле не была распространена, что устраняет основания для ответственности редакции.

**Выводы суда о том, что публикации в газете порочат честь и достоинство президента, не соответствуют фактическим обстоятельствам**

В своем решении суд признал, что опубликованные в 36-м номере газеты "Пагоня" статьи содержат сведения, порочащие честь и достоинство президента Республики Беларусь. В частности, в статье Сергея Кракасевича "Ён — не Лукашэнка" содержится выражение: "...Сем гадоў праўлення Лукашэнкі прадэманстравалі, што ён проста хворы чалавек, які знішчае наш народ. Забівае сваіх апанентаў ...", а в статье Павла Можейко "Ідзем на выбары" указывается, что "ён змагаецца са сваімі апанетамі, забіваючы іх".

Однако такой вывод суда не основан на законе и противоречит фактическим обстоятельствам дела.

По действующему законодательству, установление факта распространения клеветнических сведений в отношении президента Республики Беларусь производится в порядке гражданского судопроизводства на основании иска самого президента или уполномоченного прокурора с согласия президента. В данном случае ни президент, ни прокурор (с согласия последнего) с иском о защите чести и достоинства не обращались.

С другой стороны, Хозяйственный суд не имел права присваивать себе функции суда общей юрисдикции и устанавливать факт наличия в публикациях клеветы. Но он фактически это сделал, признав вину авторов и редакции априори, то есть без доказывания.

По мнению представителей редакции, указанные суждения нельзя признать порочащими без соответствующей экспертизы. Для подтверждения своей правоты они сослались на заключение специалиста — доктора филологических наук М.Тычины, который не увидел ничего клеветнического в содержании статей, послуживших причиной для нападок на газету.

Это дает основание полагать, что в вышеназванных статьях нет признаков нарушения ст.5 Закона о печати в части распространения сведений, порочащих честь и достоинство президента Республики Беларусь. Во всяком случае обратное никем не было доказано.

* * *

Приведенные аргументы не позволяют считать решение ВХС законным и обоснованным. При его вынесении суд допустил ошибки как в применении, так и в толковании норм материального права.

Еще есть возможность (последняя) восстановить законность и справедливость в деле с газетой "Пагоня". Захочет ли власть ею воспользоваться? Если будет принято решение внести протест в надзорную инстанцию (Коллегию ВХС), тогда можно надеяться на вынесение нового решения по делу.

**Михаил ПАСТУХОВ, руководитель Центра правовой защиты СМИ при ОО "Белорусская ассоциация журналистов", заслуженный юрист Республики Беларусь.**

ПРАФСАЮЗЫ І ЎЛАДА

# Чарговы наступ на правы працоўных

**У мінулым нумары газеты мы расказалі аб урадавай пастанове наконт прафсаюзных узносаў, далі каментарый гэтага дакумента міністрам юстыцыі Галаванавым і старшынёй Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімірам Ганчарыкам.**

**Сёння свой пункт гледжання на згаданую пастанову выказваюць лідэры некаторых прафсаюзных арганізацый. Друкуем таксама пастанову прэзідыума ФПБ.**

Вось як пракаментаваў пастанову ўрада лідэр галіновага прафсаюза аўтасельгасмаша **Аляксандр Бухвостаў**:

— Гэта рэакцыя на рашэнне апошняга пленума Фэдэрацыі. Калі б там Ганчарыка скінулі, то не было б гэтай пастановы. Гэта спроба падарваць фінансавую аснову дзейнасці прафсаюзаў. Гэта відавочна. Сорамна за дзеянні чыноўнікаў, якія выконваюць волю Лукашэнкі. Таму гэтае палітычнае рашэнне скіравана на ўціск незалежнага прафсаюзнага руху.

А вось якое меркаванне наконт урадавай пастановы выказаў сёння прэзідэнт Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў **Віктар Бабаед**:

— Чарговы раз кіраўніцтва дзяржавы парушае правы прафсаюзаў. Ёсць пагадненне, у адпаведнасці з якім прафсаюзы могуць і маюць права на тое, каб узносы пералічваліся ў адпаведнасці з Працоўным кодэксам. І кіраўніцтва нашай дзяржавы чарговы раз вырашыла парушыць усе гэтыя нормы. Гэта найгрубейшае парушэнне, і прафсаюзы, вядома, будуць скардзіцца ў Міжнародную арганізацыю працы.

У адпаведнасці з міжнароднымі нормамі прафсаюзы маюць права, каб пры заключэнні адпаведнага пагаднення прафсаюзныя ўзносы пералічваліся на рахунак прафсаюзаў праз цэнтралізаваную сістэму. Па-іншаму, каб бухгалтэрыя пералічвала гэтыя ўзносы з сябраў прафсаюзаў. Але тут наша кіраўніцтва мае іншы намер. Яно хоча знішчыць найперш Фэдэрацыю прафсаюзаў, каб гэтая структура неяк развалілася і незалежныя прафсаюзы таксама.

Гаворыць старшыня Рэспубліканскага камітэта настаўніцкага прафсаюза **Тамара Чобатава**:

— Усе абураныя, мы лічым гэта супрацьпраўным актам. У пятніцу мы правялі пленум, дзе адбылася вельмі сур'ёзная размова наконт сацыяльна-прававой абароны работнікаў адукацыі. Прафсаюзы людзям вельмі патрэбныя. Пазбавіўшыся прафсаюзаў, яны губляюць усялякую падтрымку. Сёлета сябры нашага прафсаюза ўжо пісалі заявы , каб іх узносы пералічваліся безнаяўным чынам. Мы будзем адстойваць гэтую сістэму, і падстава для нас — заявы сяброў прафсаюза.

**Міхаіл СТЭЛЬМАХ, Радыё "Свабода".**

"Эканамічным рычагом ціску на прафсаюзы" назваў старшыня Свабоднага прафсаюза Беларускага Генадзь Быкаў пастанову ўрада Беларусі, якая змяняе парадак адлічэння членскіх прафсаюзных узносаў.

Ён адзначыў, што чыноўнікі не выконвалі і ранейшы парадак пералічэння прафсаюзных узносаў, аб чым сведчаць сумы запазычанасці, якія, паводле яго слоў, "вялікія" і "нарастаюць, як снежны камяк".

Генадзь Быкаў катэгарычна не згодны са сцвярджэннем міністра юстыцыі аб тым, што новая пастанова ўрада не парушае канвенцыю Міжнароднай арганізацыі працы. "Я не ведаю, адкуль узяў гэта міністр Галаванаў, ён не мае рацыю", - заявіў лідэр Свабоднага прафсаюза Беларускага. Паводле яго слоў, далейшае развіццё сітуацыі шмат у чым будзе залежаць ад "актыўнасці прафсаюзных функцыянераў Федэрацыі прафсаюзаў".

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

# Решительный протест ФПБ

**Президиум Совета Федерации профсоюзов Белорусской принял постановление по поводу решения правительства по профсоюзным взносам.**

В нем отмечается, что сложившийся в стране порядок уплаты и перечисления профсоюзных взносов в безналичной форме по заявлению членов профсоюзов основывается на нормах законодательства Республики Беларусь, общепризнанных принципах международного права, а также на практике стран ближнего и дальнего зарубежья. Указанным постановлением Совета министров Беларуси разрушается действующая система уплаты членских взносов, грубо ущемляются права работников на свободное распоряжение своей заработной платой, преследуется цель финансового удушения и ликвидации профсоюзов как независимых организаций трудящихся. Установление порядка, когда "уплата членских профсоюзных взносов производится лично работниками без удержания взносов из их заработной платы" противоречит действующим отраслевым тарифным и местным соглашениям, а также коллективным договорам.

В документах Международной организации труда предусматривается, что "удержание профсоюзных взносов предпринимателями и их перечисление профсоюзам являются вопросом, который должен быть решен в ходе коллективных переговоров между предпринимателями и профсоюзами без вмешательства законодателя". Постановление Совета министров, отмечает президиум ФПБ, нарушает решение Конституционного суда Республики Беларусь от 21 февраля 2001 года "О порядке уплаты членских профсоюзных взносов", в котором признается, что удержание членских профсоюзных взносов из заработной платы работника путем безналичного перечисления на счета профсоюзных органов, соответствует Конституции, международно-правовым актам, законодательству Республики Беларусь".

Президиум Совета ФПБ также отмечает, что основная часть взносов (более 75 процентов) используется непосредственно в первичных организациях для оказания материальной помощи, проведения спортивно-оздоровительной и культурно-массовой работы.

Президиум Совета Федерации профсоюзов Белорусской выразил решительный протест в связи с грубым нарушением прав трудящихся и вмешательством во внутренние дела профсоюзов, воспрепятствованием их законной уставной деятельности. Он высказался за скорейший созыв Национального совета по трудовым и социальным вопросам и потребовал незамедлительной отмены постановления Совета министров Республики Беларусь от 14 декабря 2001 года №1804 "О мерах по защите прав членов профессиональных союзов", как противоречащего Конституции и законодательству Республики Беларусь, принципам, закрепленным в основополагающих конвенциях МОТ.

**Иван СЕРГЕЕВ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Зінаіда Ганчар патрабуе...

**26 лістапада жонка Віктара Ганчара напісала адкрыты ліст Уладзіміру Пуціну. Аднак ніякага адказу ад расійскага прэзідэнта дагэтуль не атрымала.**



Не звярнулі ўвагу на яе зварот і папулярныя расійскія выданні, хаця, па словах Зінаіды, па каналах электроннай сувязі амаль усе вядучыя газеты Расіі яе пасланне атрымалі.

Цяпер жонка Ганчара збіраецца звярнуцца да славутага пісьменніка **Аляксандра Салжаніцына**. Зінаіда ўжо размаўляла з офісам фонду Салжаніцына, дзе сказалі, што пісьменнік акажа ёй пасільную падтрымку.

Да таго ж Зіна працягвае дамагацца, каб пракуратура больш актыўна, больш прынцыпова праводзіла следства па справе Ганчара. Раней яна прасіла следчага **Сяргея Новікава**, каб той па-сур'ёзнаму дапытаў усіх уплывовых асобаў, чые прозвішчы згадваюцца ў рапартах генерала **Лапаціка** і палкоўніка **Алкаева**. Аднак ніякага выніка гэта не дало. Цяпер Зінаіда патрабуе кваліфікаваных допытаў ад пракурора Мінска **Купрыянава**. Патрабуе, нягледзячы ні на што, прынцыпова (а не фармальна) дапытаць эксміністра ўнутраных спраў **Ю.Сівакова**, экс-генпракурора Беларусі **А.Бажэлку**, камандзіра САХРу **Д.Паўлічэнку**, экс-старшыню КДБ **У.Мацкевіча**, экскіраўніка ГУКМ МУС Беларусі **М.Лапаціка** і іншых асобаў, маючых дачыненне да знікнення Віктара Ганчара альбо што займаліся расследаваннем крымінальнай справы.

Дарэчы, пра допыты. Усім вядома, што камандзір САХРу **Дзмітрый Паўлічэнка** адразу з СІЗА КДБ трапіў на аўдыенцыю да А.Лукашэнкі. Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў Аляксандр Рыгоравіч публічна казаў, што затрыманне гэтага быццам бы ні ў чым не вінаватага чалавека праводзілася са шматлікімі парушэннямі. І калі б грамадскасць даведалася пра ўсе падрабязнасці гэтага арышту, у некаторых бы валасы дуба сталі! Лукашэнка ў запале нават паабяцаў паказаць пратаколы допыту Паўлічэнкі журналісту "Народнай волі": "*...я Вам покажу некоторые документы, ксерокопировать не могу Вам их, я Вам дам их прочитать, и Вы увидите, как был задержан этот человек...*". Сапраўды, з гэтымі паперамі было б вельмі цікава пазнаёміцца. Вядома, што падчас допыту "інтэлектуальны" падпалкоўнік нагаварыў шмат чаго цікавага.

Аднак Аляксандр Рыгоравіч, мабыць, забыў пра сваё абяцанне. На працягу месяца мы літаральна кожны дзень тэлефанавалі былому прэс-сакратару Лукашэнкі **Мікалаю Барысевічу**. Мікалай Мікалаевіч тлумачыў, што пратаколамі допыта Паўлічэнкі нібыта даручана займацца памочніку прэзідэнта **Уладзіміру Макею**, але пагаварыць з ім заўсёды было немагчыма: вельмі заняты чыноўнік кожны раз знаходзіўся то на нарадзе, то ў камандзіроўцы, то ў адпачынку. А затым нечакана высветлілася, што спадар Макей пра гэта, як кажуць, ні сном ні духам...

Пасля Барысевіч гаварыў, што быццам бы ўжо адпраўлены запыт ў КДБ і літаральна праз некалькі дзён журналіст "Народнай волі" зможа даведацца, як дапытвалі любімага салдата Лукашэнкі. Аднак праз некалькі дзён папрасіліператэлефанаваць пасля прэзідэнцкіх выбараў. Потым — праз тыдзень. І яшчэ праз тыдзень. І так па сённяшні дзень.

Сам Дзмітрый Валер'евіч з журналістамі па-ранейшаму сустракацца катэгарычна адмаўляецца. Людзі, якія ведаюць Дзмітрыя Паўлічэнку, кажуць, што зараз ён не толькі служыць "прэзідэнту і Айчыне", але і даволі актыўна займаецца нейкім бізнесам — зарабляе грошы.

**Марына КОКТЫШ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

## Выдадзена паэма Адама Міцкевіча "Дзяды"

У выдавецтве "Беллітфонд" тыражом 1200 экземпляраў выйшла лірычная паэма Адама Міцкевіча "Дзяды".

У аснове паэмы — рамантычнае каханне паэта да Марылі Верашчакі — юнай шляхцянкі з маёнтка Тугановічы ў цяперашнім Баранавіцкім раёне. Пад імёнамі Густава і Конрада ў "Дзядах" выступае сам Адам Міцкевіч.

Дзеянне паэмы пабудавана ў форме ўрачыстага рытуалу, які суправаджаў "Дзяды", — старадаўнюю беларускую традыцыю памінання продкаў. Акрамя высокіх мастацкіх якасцяў, паэма мае вялікую пазнавальную цікавасць. У творы дзейнічаюць рэальныя гістарычныя асобы — віленскія філаматы і філарэты, сябры Міцкевіча. У большасці сваёй яны з'яўляліся выхадцамі з Беларусі, якія вучыліся ў Віленскім універсітэце. Задоўга да паўстання дзекабрыстаў на Сенацкай плошчы ў Санкт-Пецярбургу віленскія студэнты выступілі супраць царскага самадзяржаўя.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Валютны ўлоў на "Варшаўскім мосце"

Супрацоўнікі ўпраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй і работнікі мытні "Заходні Буг" затрымалі грамадзяніна Расіі, у якога канфіскавалі 51.400 нямецкіх марак, 1200 амерыканскіх долараў і 4500 расійскіх рублёў.

Як стала вядома БелаПАН, 34-гадовы ўраджэнец Стаўрапольскага краю Юрый Д. накіроўваўся ў Германію праз мытны пераход "Варшаўскі мост". У дэкларацыі ён указаў перавозімую суму — 16.400 нямецкіх марак, 4,5 тысячы расійскіх рублёў і 1200 амерыканскіх долараў. Аднак пры асабістым аглядзе ў адзенні расіяніна было знойдзена яшчэ 35 тысяч нямецкіх марак, якія ён спрабаваў правезці нелегальна. Уся валюта, у тым ліку і задэклараваная, згодна з заканадаўствам, у Юрыя Д. канфіскавана. Сам ён затрыманы і знаходзіцца ў следчым ізалятары. Па факце ўзбуджана крымінальная справа. Расследаванне праводзіць упраўленне КДБ па Брэсцкай вобласці.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

